ЧАМУ ПЕРАСЫХАЮЦЬ



МАЛОЧНЫЯ РЭКІ

СТАР. 5

ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

ТОП-5 БЕЛАРУСАЎ,



ПАКАРЫЎШЫХ МАСКВУ

СТАР. 6-7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА 15.03.12-21.03.12 г.

# ЯК МЫ СТАЛІ КРАІНАЙ НЕВЫЯЗНЫХ

Улады Беларусі вырашылі асіметрычна адказаць на візавыя санкцыі Еўрасаюза.




*На адны спісы невыязных знайшліся іншыя. І вінаватая ў гэтым не Еўропа*

## ВЫКРЫЦЬ "ВОРАГАЎ НАРОДА"

Напрыканцы лютага, пасля чарговага пашырэння чорнага спісу неўязных у ЕС, крыніца, блізкая да кіраўніцтва дзяржавы, паведаміла парталу TUT.BY, што разглядаецца магчымасць абмежавання на выезд з Беларусі асоб, якія "заклікалі да ўвядзення санкцый супраць нашай краіны". Гэткіх "нягоднікаў" на той момант налічылі аж 108, але агучаныя былі толькі 3 прозвішчы – былы спікер Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна і кіраўнік Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук.

Менавіта апошні даў нагоду ўладам "выкрыць ворагаў народа". Нядаўна Ярашук заявіў, што, калі не будзе спынены ціск на сябраў незалежных прафсаюзаў на мікашэвіцкім прадпрыемстве "Граніт", то магчымы байкот беларускіх тавараў у Еўропе. Насамрэч гэта абсалютна фантастычны сцэнар, аднак чыноўнікі зачапіліся за заяву Ярашука.

> "Вы нас не пушчаеце ў ЕС, дык мы вашым наймітам таксама не дадзім туды ездзіць".

Што тычыцца астатніх, то наўрад ці ў Беларусі знойдзецца 108 палітычных і грамадскіх дзеячоў, якія публічна заклікалі да санкцый супраць нашай краіны. Найбольш актыўна гэта робяць тыя, хто даўно знаходзіцца за межамі Беларусі – у прыватнасці, адзін з паплечнікаў экс-кандыдатаў у прэзідэнты Андрэя Саннікава Мікалай Халезін, і яго жонка Наталля Каляда. Натуральна, што на гэтых людзях чарговы фокус афіцыйнага Мінску ніяк не адаб'ецца.

Таму ў спіс невыязных патрапілі тыя, на каго ўлада мае зуб з розных прычынаў. І атрымалася паводле прынцыпу зуб за зуб: "Вы нас не пушчаеце ў ЕС, дык мы вашым наймітам таксама не дадзім туды ездзіць".

## А МЫ ТУТ НІ ПРЫ ЧЫМ…

Цікава, што па гарачых слядах прадстаўнікі дзяржаўных арганізацый абверглі інфармацыю TUT.BY. "Гэта ўсё домыслы, і, хутчэй за ўсё, выглядае як правакацыя. Альбо ў нас з'явіліся нейкія добраахвотныя памочнікі – але мы ў іх дапамозе не маем патрэбы", -- заявіў "Еўрарадыё" прэсавы сакратар Міністэрства замежных спраў Андрэй Савіных.

*Заканчэнне на стар. 3*

### АФІЦЫЙНА

**Намесніца начальніка ўпраўлення інфармацыі МЗС Беларусі Марыя Ваньшына пракаментавала карэспандэнту БЕЛТА магчымасць вяртання паслоў. «Разважаючы разумна, аб якім вяртанні еўрапейскіх паслоў сёння можа ісці гаворка. калі сам Еўрасаюз не стамляецца пагражаць нам увядзеннем новых санкцый 23 сакавіка! Давайце спачатку дачакаемся гэтай даты, а ўжо потым мы будзем вызначацца, у тым ліку і адносна вяртання паслоў», — адзначыла Ваньшына.**

### НАВІНА

# КАБ ВЫЖЫЎ КАВАЛЕНКА

Алесь Яжэвіч з Чэрвеньскага раёна прапануе памяняцца месцамі з палітвязнем Сяргеем Каваленкам.

«Калі за сцяг і за веру канае ў турме патрыёт Сяргей Каваленка, я не магу маўчаць. Смерць сцяганосца ляжа цяжкім грахом на кожнага з нас, хто не зрокся Радзімы, а значыць — і на мяне. Я на добрыя 20 год раней за Каваленку вывешваў бел-чырвона-белыя сцягі. Пасадзіце мяне замест Каваленкі», — кажа Аляксандр Яжэвіч. «Каваленка разумна робіць, што галадае, але рэсурс не бясконцы. Ягоная вага ў 50 кілаграмаў пры росце 182, -- лішняе сведчанне, што яму засталося нямнога. Я хачу, каб ён жыў. Такія людзі патрэбныя Беларусі, каб краіна захавала незалежнасць», — лічыць грамадзянін.

Алесь Яжэвіч ужо колькі часу не можа знайсці працы, бо паўсюль прынцыпова ўжывае беларускую мову. У мужчыны вышэйшая адукацыя, скончыў Лінгвістычны ўніверсітэт. Сяргея Каваленку ён называе сваім паслядоўнікам, бо сам Яжэвіч ў 1980-я вывешваў сцягі.

Сяргей Каваленка ад 8 лютага трымае бесперапынную галадоўку. Яго асудзілі на 2 гады і 1 месяц за парушэнне ўмоваў адбыцця «хатняй хіміі», якой яго пакаралі за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга на навагоднай ёлцы ў Віцебску.

**ЗМІЦЕР ПАНКАВЕЦ**

# ЯКІЯ ІНВЕСТЫЦЫІ ВЫЦЯГНУЦЬ НАШУ ЭКАНОМІКУ?

У панчохах беларусаў па розных адзнаках знаходзіцца ад 8 да 15 мільярдаў долараў. Замежныя грошы вельмі неахвотна цякуць у нашу краіну. І аптымізму ў гэтым працэсе не праглядваецца. Чаму так адбываецца, даследвала "Тут і цяпер".

**ВАЛЕРЫЙ ЛЕВАНЕЎСКІ, ПРАДПРЫМАЛЬНІК (ГРОДНА):**

## "БЕЗ ЗМЕНЫ СТРУКТУРЫ ЎЛАДЫ НАС НЕ ВЫРАТУЕ НІЧОГА"

— Нашу эканоміку ніякія інвестыцыі не выцягнуць, таму што сама яе мадэль пабудавана на адміністрацыйнасці і хабарніцтве. Уласнаму прадпрымальніку ў нас няма зацікаўленасці працаваць, бо чалавек неабаронены, бізнес могуць забраць. Што тычыцца кітайцаў, то іх таксама могуць "кінуць", як "кінулі" ў свой час амерыканцыў і шмат каго яшчэ. Іх спачатку завабяць, а пасля, калі яны нешта пачнуць будаваць, скажуць: "Прабачце, вы нейкія правілы не выконваеце". І ўсё на гэтым.

**АНАТОЛЬ ШУМЧАНКА, СТАРШЫНЯ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ ГРАМАДСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ «ПЕРСПЕКТЫВА»:**

## "АБАПІРАЦЦА ТРЭБА ТОЛЬКІ НА ЎНУТРАНЫХ ІНВЕСТАРАЎ"

— Ёсць вельмі добрая прымаўка — "Калі не хочаш карміць сваю армію, то будзеш карміць чужую". У дадзеным выпадку яна вельмі дарэчы. Пошук інвестараў унутры краіны дазволіць нам працаваць на ўмовах выгаднага супрацоўніцтва менавіта для нашай краіны. А тыя замежныя інвестары, якія сюды прыходзяць... Грошы чамусьці потым часта апынаюцца ў афшорах, але на нашу эканоміку гэта станоўча не ўплывае. Сітуацыя можа змяніцца толькі пасля якасных змен у адносінах да ўласнага народа, да людзей бізнесу. Але, на жаль, сённяшняя палітычная сітуацыя не спрыяе з'яўленню класа ўласнікаў, якія могуць выцягнуць краіну з крызісу. Таму ўсё зводзіцца да банальнага пераразмеркавання смачных кавалкаў, якія будуць аддадзены іншаземцам. Ва ўсім свеце малы бізнес служыць асновай эканомікі. У нас гэтае пытанне пастаўлена ў ранг палітычнага.

**АЛЯКСАНДР ЧУБРЫК, ЭКАНАМІСТ:**

## "ПЫТАННІ ІНВЕСТЫЦЫЙ ПАВІНЕН ВЫРАШАЦЬ БІЗНЕС, А НЕ ДЗЯРЖАВА".



*Капіталы любяць свабоду*

— Інвестыцыі неабходны тыя, якія бізнес палічыць патрэбнымі. Калі выбіраць, якія інвестыцыі будуць нас выцягваць, пачынае дзяржава, то гэта звычайна заканчваецца пэўнымі перакосамі. Будзе развівацца, напрыклад, нейкі адзін сегмент рынку, што робіць эканоміку вельмі ўразлівай у адносінах да крызісу. Просты прыклад. Мы абралі будаўніцтва як прыярытэт, і ў выніку зараз у гэтай галіне не вельмі добрае становішча: заробкі скараціліся амаль удвая за мінулы год. Такім чынам, калі не бізнес будзе вырашаць, якія інвестыцыі нас уратуюць, то паўстануць праблемы. Таму ў першую чаргу трэба ствараць роўныя ўмовы для ўсіх інвестараў, як для ўнутраных, так і для вонкавых. І няхай бізнес вырашыць, куды ўкладаць грошы, у якія сферы і кірункі.

**ВІЯЛЕТА КАВАЛЕВІЧ, БІЗНЕСМЕНКА:**

## "ГЭТА ГУЛЬНЯ Ў НАПАРСТКІ".

— Прыбытковасць па грэчаскіх аблігацыях дасягнула тысячы працэнтаў гадавых. Калі ў вас ёсць лішнія зберажэнні, і вы нічога не баіцеся, то можаце інвеставаць у Грэцыю: праз год, уклаўшы тысячу еўра, атрымаеце сто тысяч! Праўда, праз год наўрад ці хтосьці купіць вашу аблігацыю за сто тысяч. Дай Бог, праз год наварыць на ёй сто баксаў.

Тое ж самае можна зрабіць у казіно. Пайсці, напрыклад, у "Шангры Ла" і паставіць на нейкую лічбу. Гэта я да таго, што казаць пра нейкія інвестыцыі ў Беларусь не мае ніякага сэнсу. Тут можна гаварыць пра азартныя гульні альбо пра нейкія змовы, якія таксама мяжуюць з гэтымі гульнямі. Бо заўтра не выключана, што табе скажуць: "З кім вы дамаўляліся? Хто гэта падпісваў? Ідзіце ў…". Якія інвестыцыі могуць сюды ісці, у такую "прывабную" краіну? Але нехта нешта тут рабіць жадае. Праўда, гэта нельга называць праграмай прыцягнення інвестыцый. Грошы — вельмі баязлівая рэч: яны баяцца любога скразнячку, кожнага чыху і адразу ўцякаюць. У нас гульня ў напарсткі, і выйграць у яе можна двума спосабамі: трэба альбо самому быць напарстачнікам, альбо дамовіцца з ім.

Выцягнуць эканоміку з намеснікамі па ідэалогіі і ўсялякімі планамі развіцця не можа нішто. Кітайцы ж пра нешта дамовіліся з напарстачнікамі.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

**ДАЖЫЛІСЯ**

## КОТ У МЯШКУ

Беларускія ўлады падрыхтавалі праект прэзідэнцкага ўказа, які прадастаўляе беспрэцэдэнтныя прэферэнцыі рэзідэнтам Кітайска-беларускага індустрыяльнага парка. Згодна з праектам указа, тэкстам якога валодае БелаПАН, рэзідэнты парка будуць вызвалены ад выплаты падатку на прыбытак, нерухомую маёмасць, ад мясцовых падаткаў, а таксама ад абавязковага продажу валютнай выручкі. Пытанне аб тым, што Беларусь атрымае ўзамен такіх шчодрых прэферэнцый, застаецца адкрытым.

Дарэчы, вялікага жадання інвеставаць у Беларусь Кітай да апошняга часу не выказваў. Паводле даных беларускага ўрада, Беларусь сёння рэалізуе з Кітаем праекты ў рамках крэдытных ліній на агульную суму 5 500 000 000 долараў. У той жа час прамыя замежныя інвестыцыі ў Беларусь з Кітая склалі ў 2011 годзе толькі 9 400 000 долараў.

# ЯК МЫ СТАЛІ КРАІНАЙ НЕВЫЯЗНЫХ

*Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1*

Аднак ужо 7 сакавіка за мяжу не выпусцілі старшыню Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзьку. Потым тое самае здарылася з каардынатарам кампаніі "За свабодныя выбары" Віктарам Карнеенкам, кіраўніком партыі "Справядлівы свет" Сяргеем Калякіным, праваабаронцам Валянцінам Стэфановічам, шэф-рэдактарам "Нашай нівы" Андрэем Дынько, старшынёй БАЖа Жаннай Літвіной...

Такім чынам, існаванне спісу невыязных пацверджана на практыцы. Аднак улады працягваюць адхрышчвацца ад яго. Відаць, на гэты момант існуюць праблемы нават з фармальнымі падставамі для пераводу вышэйзгаданых грамадзян ў статус невыязных. Па сутнасці, іх проста зрабілі закладнікамі напярэдадні чарговага разгляду Еўрасаюзам "беларускага пытання". Існуе вялікая верагоднасць, што 26 сакавіка пад візавыя санцыі патрапіць шэраг бізнесоўцаў, блізкіх да атачэння Лукашэнкі. Гэтая перспектыва вельмі нервуе беларускія ўлады, і яны спрабуюць згуляць на апярэджанне і абвастрэнне адначасова.

## У "ЧОРНЫЯ СПІСЫ" ТРАПІЛІ ЎСЕ БЕЛАРУСЫ

Сітуацыя канчаткова набыла рысы фарсу пасля таго, як высвятлілася, што Мікалаю Халезіну не далі візу ў ЗША. Амерыканская амбасада ў Лондане палічыла неабавязковым ягоны візіт у Нью-Ёрк.

Насамрэч, абмежаваныя ў магчымасцях перамяшчэння не толькі чыноўнікі і апазіцыянеры, што трапілі ў розныя "чорныя спісы", а ўсе беларусы. Каб не палітыка Лукашэнкі, грамадзяне нашай дзяржавы мелі цудоўныя шансы на безвізавы ўезд у шэнгенскую зону. А так неабходна збіраць дакументы, несці іх у амбасады і потым чакаць выніку: дазволяць табе наведаць, да прыкладу, суседнюю Літву ці не? У той час як тыя ж літоўцы даўно без усялякіх фармальнасцяў ездзяць практычна па ўсім свеце. А ў нас атрымалася "краіна невыязных"...

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# ВЫСТАІМ!

## Старшыня ГА "БАЖ" Жанна Літвіна і кіраўнік Мінскага бюро тэлеканалу "Белсат" Міхась Янчук, якіх не выпусцілі з Беларусі, 15 сакавіка далі прэс-канферэнцыю ў Мінску, паведамляе прэс-служба БАЖ.




"Падаецца, што гэта працяг палітыкі "кропкавага" ціску з мэтай запалохвання, - упэўнены Міхась Янчук. - Масіраваных рэпрэсій супраць журналістаў улада зараз не можа сабе дазволіць і таму будзе намагацца дзейнічаць праз канкрэтныя рэдакцыі, канкрэтных асобаў, якія будуць падвяргацца санкцыям і на прыкладзе якіх астатнія маюць стаць "больш разумнымі". Але ў журналісцкай супольнасці такая тактыка дзейнічае дакладна наадварот. Журналісты заўсёды гуртаваліся, перадусім вакол БАЖу, і дапамагалі адзін аднаму перажыць часы рэпрэсій…"

"Я думаю, што пашырэнне гэтага спісу шмат у чым будзе залежаць ад падзеяў міжнароднага ўзроўню, - лічыць старшыня БАЖ. - Для нас знакавым днём можа стацца 23 сакавіка, калі Савет міністраў ЕС разгледзіць "беларускае пытанне" ў кантэксце дадатковых санкцый. На сёння ясная тэндэнцыя: як толькі там гучаць цвёрдыя рэкамендацыі вызваліць палітзняволеных, тым больш узмацняецца ціск у самой Беларусі…"

"Мы з поўнай адказнасцю заяўляем, што БАЖ будзе працягваць дзейнасць, звязаную з абаронай прафесійных правоў журналістаў, распаўсюдам ідэй свабоды слова ў грамадстве і забеспячэннем умоваў для прафесійнай дзейнасці журналістаў, - сказала Жанна Літвіна. - Я ўпэўнена, што грамадзянская пазіцыя і ўпэўненасць, што ты робіш усе правільна, павінныя нас умацоўваць".

Намеснік старшыні ГА "БАЖ" Андрэй Бастунец падкрэсліў, што законныя падставы для абмежавання права на выезд з краіны адсутнічаюць. "Я лічу, што неабходна выкарыстоўваць усе прававыя сродкі, каб з гэтым змагацца", - дадаў ён.

Кожнаму з "невыязных", юрыст раіць ім абскарджваць дзеянні памежных службаў вышэйшым службовым асобам і ў судах.

Што да ГА "БАЖ", ужо сёння арганізацыя накіруе лісты ў Дэпартамент па грамадзянстве і міграцыі МУС і Дзяржаўны памежны камітэт з патрабаваннем патлумачыць прычыны забароны на выезд за мяжу сваім сябрам і назваць тых, хто ўнёс іх імёны ў гэты спіс. Акрамя таго, будзе накіраваны ліст у Генпракуратуру — з патрабаваннем высветліць законнасць абмежавання права на выезд з Беларусі сябраў БАЖ.

**НАГАДАЕМ**

## З ЗАЯВЫ ГА "БАЖ" З НАГОДЫ АБМЕЖАВАННЯ ПРАВА НА ВЫЕЗД З КРАІНЫ ЖУРНАЛІСТАЎ І СЯБРАЎ АРГАНІЗАЦЫІ

**Грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя журналістаў" адзначае няўхільнае пагаршэнне сітуацыі са свабодай слова і іншымі грамадска-палітычнымі правамі ў краіне.**

**Амаль адначасова адбываюцца незаконнае абмежаванне права на свабоду перамяшчэння сябраў арганізацыі, рэзкае ўзмацненне пераследу журналістаў з боку пракуратуры, МУС і КДБ, а таксама распаўсюд недакладнай і зневажальнай інфармацыі пра ГА "БАЖ" і яго кіраўніцтва дзяржаўным тэлебачаннем.**

**Масавыя парушэнні свабоды меркавання праяўляюцца і ў тым, што з пачатку года сем журналістаў з Гродна і Полацку атрымалі вусныя альбо пісьмовыя папярэджанні ад органаў пракуратуры і КДБ. Яшчэ адзін журналіст з Брэста выкліканы ў абласную пракуратуру на 19 сакавіка.**

**…Нельга не звярнуць увагі на тое, што ціск на журналістаў і сябраў БАЖ павялічыўся неўзабаве пасля распачатай на беларускім тэлебачанні кампаніі цкавання і дыскрэдытацыі ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" і яе кіраўніцтва. Складваецца ўражанне, што дзяржаўнае тэлебачанне займаецца ідэалагічным забяспячэннем наступу на незалежную журналістыку ў краіне.**

# У ПОШУКАХ ...ТАЛОНЧЫКАЎ

**Апошнія некалькі тыдняў у кіёсках "Белсаюздрук" стала амаль немагчыма набыць талоны на праезд, бо выдаюць іх на рэалізацыю малымі партыямі, якія адразу ж раскупліваюць у сувязі з хуткім чарговым падаражаннем цаны на праезд.**

## НЕЗАДАВОЛЕНЫ І КАНДУКТАРЫ

Набыць талон можна ў спецыялізаваных кіёсках "Мінсктранс", але яны ёсць далёка не на кожным прыпынку. Не рэалізоўваюць цяпер "танныя" талоны і кандуктары, у якіх раней можна было набыць іх не па завышанай, як у вадзіцеля, цане.

Дарэчы, самі кандуктары такім становішчам таксама незадаволены.

— Нам ужо даўно не даюць на продаж звычайныя талоны. Кажуць, што іх забралі ад нас, каб больш маглі прадаваць кіяскёры ў спецыялізаваных кіёсках "Мінсктранса", — расказала **Таццяна Уладзімірава, кандуктар сталічнага аўтобуса**. — Нам засталіся толькі рулонныя квіткі, якія трэба прадаць на 7 мільёнаў у месяц, каб атрымаць прэмію і атрымаць на выхадзе 2 мільёны "чыстымі". Зразумела, што зарплата ў нас знізілася, бо найбольшы прыбытак прыносіў продаж менавіта звычайных талонаў, якія людзі набывалі ў запас. Ды яшчэ пасажыры ўвесь час пытаюцца, чаму талонаў такіх цяпер няма, а мы ім адказаць нічога не можам.

Па чутках, што ходзяць сярод транспартнікаў, у красавіку, калі ўзнімецца кошт праезду, штрафы павялічацца не ўтрая (з 7 тысяч да 20 тысяч), а толькі да 10 тысяч, бо інакш увогуле ніякіх грошай з "зайцоў не вытрасеш".

А пакуль што на большасці кіёскаў "Белсаюздрук" можна ўбачыць надпісы "Талонов нет", "Талоны не продаём". І хаця паміж кіраўніцтвам "Белсаюздрук" і "Мінсктранс" існуе дамова на рэалізацыю талоннай прадукцыі, трактуюць яны свае абавязкі па-рознаму.

— Талоны нікуды не зніклі,




*Пра такія кошты на білеты трэба забыць*

і ёсць усюды ў рэалізацыі. Калі на транспартным прыпынку ёсць наш спецыялізаваны кіёск, то ў кіёсках "Белсаюздрук" талонаў не будзе, — распавяла Наталля Ігралава, дырэктар філіяла "Агенцтва Мінсктранс". — Калі нашага кіёска няма, то талоны павінны быць у кіёсках "Белсаюздрук", бо існуюць дамоўныя зносіны, згодна з якімі Белсаюздрук абавязаны рэалізоўваць талоны, якія мы даём.

## ТАМУ ШТО БУДЗЕ ПАДАРАЖАННЕ

— Надпісы "Талоны не продаём" могуць быць толькі ў тых кіёсках "Белсаюздрук", побач з якімі стаяць спецыялізаваныя кіёскі "Мінсктранс", — патлумачыла карэспандэнту "Тут і цяпер" **Алена Міхайлаўна з аддзела па рэалізацыі білетнай прадукцыі "Белсаюздрук"**. — Калі побач такога кіёска няма і талонаў у кіёску "Белсаюздрук" таксама няма, то, магчыма, яны проста скончыліся. Зараз мы талоны выдаём патрошку, бо будзе падаражанне. Зараз адзначаецца бум — людзі бяруць па 10—20 талонаў, а мы не маем права даваць шмат прадукцыі на рэалізацыю. Увогуле, наша асноўная прадукцыя — газеты і часопісы, і калі талоны заканчваюцца, то кіяскёры пад'язджаюць за імі да нас у свой вольны час.

На момант падпісання нумара ў свет талончыкі былі далёка не ва ўсіх сталічных кіёсках…

**ІРЫНА СІНІЦА**

# САЧЫЦЕ ЗА КАШАЛЬКАМІ!

**Пакуль грошы ў кашальку змяшчаюцца, патрэбы ў дэнамінацыі няма, — адказвае Надзея Ермакова на пытанне Еўрарадыё аб скарачэнні нулей на купюрах.**

*"Не выключана, што некалі дэнамінацыя будзе, калі ў нас моцна вырастуць прыбыткі, і ў нашых кашальках гэтыя купюры ўжо не будуць змяшчацца. Сёння пакуль і ў балансе, і ў калькулятарах, і ў кашальках усе нулі яшчэ памяшчаюцца"*, — кажа старшыня Нацбанка Надзея Ермакова.

Мы пайшлі на вуліцы і спыталі ў людзей, ці мяшчаюцца грошы ў іх кашальках.

*"Змяшчаюцца, грошай-то няма… таму ён не тоўсты"*, — адказваюць наперабой **хлопец з дзяўчынай** каля філфаку БДУ. І дадаюць, што гэта не праблема: галоўнае — каб грошы былі, а дзе захоўваць, знойдзецца!

Беларусь перажывала дэнамінацыю ўжо два разы — у 1994 годзе (у 10 разоў) і ў 2000-м (у 1000 разоў). Эканамісты кажуць, што праводзіць яе трэба тады, калі Нацбанк упэўнены, што больш такой інфляцыі не будзе.

*"Мы перажылі вельмі сур'ёзную інфляцыю і дэвальвацыю. Апошнія месяцы сітуацыя кардынальна палепшылася, але гэтай гісторыі недастаткова, каб зрабіць доўгатэрміновую выснову, што ўсё ў парадку. Трэба больш часу. І толькі запэўніўшыся, што рубель дастаткова стабільны, што цэны дастаткова стабільныя, мае сэнс "адразаць" нулі"*, — кажа фінансавы аналітык афіцыйнага партнёра "Альпары" ў Мінску **Вадзім Іосуб**.

Паводле слоў эканаміста варта пачакаць хаця б да канца года.

Старшыня Нацбанка згодная, што перш чым праводзіць дэнамінацыю, трэба стабілізаваць эканоміку.

**Надзея Ермакова**: *"Пры той дэвальвацыі, якая ў нас была ў мінулым годзе, сёння пакуль пра дэнамінацыю казаць нельга. Трэба ўзнавіць цалкам эканоміку, грашова-крэдытную сістэму ўсю прывесці ў парадак, каб у нас і працэнтныя стаўкі былі нармальныя, хаця б ніжэй за 10%, тады можна будзе казаць пра дэнамінацыю!"*.

**Малады хлопец**, якога карэспандэнт Еўрарадыё спыніла на вуліцы Карла Маркса, кажа, што любіць выязджаць за мяжу і разлічвацца там манетамі. Маўляў, у гэтым ёсць нейкая рамантыка:

Але Надзея Ермакова разбівае ўсю рамантыку: манеты можа і будуць у нашай краіне, але "не пры ёй"…

**Надзея Ермакова**: *"Уявіце, колькі гэта трэба металу. Трэба будзе купіць нанава лічыльныя машынкі, а купіць іх трэба будзе за валюту, таму што яны ў нас у краіне цяпер не выпрацоўваюцца. Пасля трэба дадатковыя касіры, каб фарміраваць гэтыя мяшкі. Гэта проста дадатковыя выдаткі. Магчыма, калі я сыду, іншы старшыня будзе прыхільнікам"*.

Найбуйная 200-тысячная купюра ў Беларусі каштуе 25 долараў. Еўрарадыё параўнала кошты самых буйных купюраў нашых суседзяў. 200 польскіх літаў каштуюць прыкладна 60 долараў. 500 украінскіх грыўняў — таксама каля 60 долараў. А вось 500 літаў — гэта амаль 200 долараў!

**НАСТА МАНЦЭВІЧ**

# ЧАМУ ПЕРАСЫХАЮЦЬ МАЛОЧНЫЯ РЭКІ

Магілёўскі грамадскі актывіст Аляксей Паўлоўскі пісьмова звярнуўся да старшыні аблвыканкама Пятра Рудніка з наступным пытаннем "Чаму ў Магілёве не хапае "сацыяльных" малочных прадуктаў?

## ПІЛЬНАВАЦЬ З САМАЙ РАНІЦЫ

Малочным заводам, лічыць Паўлоўскі, нявыгадна гандляваць таннымі прадуктамі.

— Гэта супадае і з настроем крам, — тлумачыць ён. — Але як быць малазаможным пенсіянерам? Апошнім часам у абласным цэнтры відавочна пагоршылася забеспячэнне крам таннымі малаком і тварагом. Гэта ёсць вынік таго, што асноўны пастаўшчык малочных прадуктаў на прылаўкі магілёўскіх крам — вытворчае аб'яднанне "Бабуліна крынка" — з'яўляецца манапалістам. Цяпер у крамах Магілёва заўсёды ёсць малако 3-адсоткавай тлустасці, з дабаўкамі і вітамінамі, літр якога ў сярэднім каштуе амаль 5 тысяч рублёў. Ясна, што далёка не кожны пенсіянер ці які іншы малазабяспечаны пакупнік можа такое набываць. А малако па кошце менш за 2 тысячы, якое раней у большым аб'ёме пастаўлялася ў крамы, цяпер трэба пільнаваць з самай раніцы. Такая ж напружаная сітуацыя і з нятлустым тварагом.

## СПАДЗЯВАННЯЎ НЯШМАТ

Паўлоўскі падазрае, што для таго, каб пацвердзіць, што "пытанне пад кантролем", губернатар спашлецца на дзве магілёўскія крамы, якім сёлета даручана клапаціцца найперш пра малазаможнае насельніцтва. У іх сапраўды ёсць пэўныя зніжкі на прадукты для пенсіянераў, а таксама і адпаведны "сацыяльны" асартымент.

Мы наведаліся ў адну з такіх крам, што туліцца непадалёк жылога Дома ветэранаў у спальным мікрараёне "Спадарожнік" абласнога цэнтра. Гэтую "ветэранскую" краму штодня літаральна штурмуюць жыхары з усіх мікрараёнаў горада. Прычыны дзве. Першая: сваіх крам у новым мікраёне пакуль вельмі мала. Другая: наведвальнікаў вабяць танныя кошты на "сацыяльныя" малочныя прадукты. Таму самім ветэранам пры такой папулярнасці крамы прадуктаў не заўсёды хапае.

Аблвыканкам выраšыў спраўляцца з гэтай праблемай звыклым бюракратычным шляхам: нядаўна тут увялі пэўныя абмежаванні на продаж прадуктаў "у адны рукі".

Менавіта абвесткай пра гэтую "абмежавальную" навіну сустракае цяпер крама сваіх наведвальнікаў. Нормы продажу тавараў даволі шчодрыя: напрыклад, можна набыць не больш за 5 кілаграмаў смятаны альбо столькі ж тварагу. Загадчыца крамы Валянціна Цецерукова сведчыць, што па столькі ніхто не бярэ, і абмежаванні існуюць "для парадку":

— Іншая справа, што танных прадуктаў у краму прывозяць менш, чым можна было б прадаць за дзень. Да таго ж набыць тавар у нашым магазіне можа любы чалавек, таму бліжэй да вечара для ветэранаў, якія лічацца нашымі галоўнымі кліентамі, таго-сяго можа і не стаць. Спадзевы толькі на тое, што хутка пачнецца вясенне-летні сезон утрымання статкаў, і малака, адпаведна, і малочных прадуктаў, будзе больш.



## А МО ПРОСТА НЕ ХОЧУЦЬ ВЫРАШАЦЬ ПРАБЛЕМУ?

Такі аптымізм, аднак, не падзяляюць самі ветэраны. Яны б хацелі, каб гэтую акалічнасць улічылі гарадскія ўлады і ў іх краму пачалі б завозіць больш танных прадуктаў. Сталы жыхар Дома ветэранаў Мікалай Іванавіч, да пенсіі гандлёвы работнік кіруючага звяна, гатоў нават прапанаваць свае паслугі: "Разлічыць штодзённы неабходны аб'ём малочных прадуктаў зусім няцяжка. Я і сам мог бы гэта зрабіць, толькі вось нікому гэта не патрэбна. У крайнім выпадку, можна было б адпускаць "сацыяльныя" малочныя прадукты ў пэўныя гадзіны ТОЛЬКІ ветэранам ды іншым малазаможным гараджанам".

А цяпер нібыта і "меры прыняты", і трымаць справаздачу па іх лёгка. Вось толькі лягчэй ад гэтых мер стала хіба што толькі самім чыноўнікам.

**ВІКТАР ВОЙТ**

# ТРЭЦЯЕ МЕСЦА З КАНЦА

Доля прадуктаў харчавання ў структуры спажывецкіх расходаў — індыкатар для параўнання ўзроўню жыцця насельніцтва ў розных краінах, паведамляюць naviny.by.

І гэта параўнанне з краінамі Еўропы — не на карысць Беларусі. Беларусы трацяць на ежу больш за 40% сваіх даходаў, у той час як еўрапейцы — толькі 10–20%.

Паводле звестак Белстата, у структуры спажывецкіх расходаў хатніх гаспадарак у цэлым па краіне доля расходаў на харчаванне павялічылася з 39% у 2010 годзе да 41,3% у 2011 годзе.

Тэндэнцыя павелічэння расходаў на харчаванне і памяншэнне выдаткаў на аплату жыллёва-камунальных паслуг (у Мінску ў 2011 годзе 5% супраць 6,5% у 2010-м) — характэрная для краін з невысокім узроўнем развіцця. У Еўропе выдаткі на харчаванне перавышаюць выдаткі на жыллё і складаюць ад 10% да 20% бюджэту сям'і. Астатнюю частку даходаў (за выняткам так званых абавязковых плацяжоў) еўрапейцы расходуюць на адзенне, забавы, адукацыю і прадметы раскошы.

Грунтуючыся на дадзеных статыстычных арганізацый розных краін Еўропы, эксперты Цэнтра эканамічнага аналізу «РІА-Аналітыка» склалі рэйтынг еўрапейскіх дзяржаваў па долі выдаткаў на прадукты харчавання ў структуры спажывецкіх выдаткаў.

Беларусь у гэтым рэйтынгу займае трэцяе месца з канца з 38 еўрапейскіх краін.

Замыкаюць рэйтынг краіны былога СССР. На апошнім месцы знаходзіцца Украіна, жыхары якой выдаткоўваюць палову сваіх спажывецкіх выдаткаў на ежу. На другім месцы з канца Малдова (доля прадуктаў харчавання ў выдатках 40,8%), далей — Беларусь (39,2%). Расія займае 34-е месца з паказчыкам долі выдаткаў на прадукты ў 28,8%.

Тое, што нам даводзіцца працаваць, каб у асноўным пракарміцца, эканаміст Міхаіл Залескі лічыць вельмі паказальным для ілюстрацыі ўзроўню жыцця беларусаў у параўнанні з еўрапейцамі.

На яго думку, насамрэч сітуацыя яшчэ горшая, чым паказвае статыстыка.

«Думаю, каля 60% сем'яў трацяць на харчаванне дзве траціны свайго бюджэту. І гэтая сітуацыя ў Беларусі ўстойлівая на працягу апошняга стагоддзя», — адзначыў Міхаіл Залескі.

# ТОП-5 БЕЛАРУСАЎ, ЯКІЯ

## "Тут і цяпер" паспрабавала скласці рэйтынг пяці самых паспяховых беларусаў у расійскім шоу-бізнесе. Задачка гэта, шчыра кажучы, аказалася не з лёгкіх.

### ПЕРШЫ МОМАНТ

Многія памятаюць, як пасля тайнага прымусовага ўвядзення ў радыёэфіры 75-працэнтнай квоты песень беларускіх артыстаў вынаходлівыя музычныя рэдактары запісалі ў беларусы ўсіх, каго толькі здолелі: ад Юрыя Антонава, які ў свой час вучыўся ў Маладзечанскай музычнай вучэльні, да Андрэя Макарэвіча, бабуля і дзед якога родам з Гродзеншчыны.

У Дзіяны Арбенінай і сёння тут жыве бацька.

А Барыс Майсееў у кожны прыезд прыгадвае ўсё новыя падрабязнасці свайго магілёўскага дзяцінства.

Чарговы муж Лаліты таксама беларус.

І нават у самой Прымадонны стрыечная цётка з нашых...

Карацей, пры жаданні ці не палову расійскага шоу-бізнесу можна запісаць у "сваякі".

### ДРУГІ МОМАНТ

У чым вымяраць поспех сучаснага артыста? Гэта раней прэстыжныя музычныя ўзнагароды можна было па пальцах пералічыць, а цяпер іх як бразготак у немаўляці. Нават тытул заслужанага артыста сёння ні аб чым не сведчыць. Колькасць прададзеных альбомаў абясцэнілася колькасцю праглядаў на YouTube ды запампоўваннем з торантаў. Дый сумы ганарараў многія артысты "засвечваюць" неахвотна, паводле старажытнай традыцыі "маўчы, будзь хітрым": ці то падатковай асцерагаюцца, ці то злодзеяў, ці то банальнай чорнай зайздрасці з боку былых суайчыннікаў.

Апытваць мінакоў на маскоўскіх вуліцах — "Каго з беларускіх артыстаў вы ведаеце?" — мы не сталі, а вось у адной з самых папулярных расійскіх пошукавых сістэм у інтэрнэце пацікавіліся, колькі вынікаў (старонак, публікацый, навін) яна выдасць на розныя імёны. Вось што атрымалася.

**"Бі-2"** — 8 млн вынікаў;

**Дзмітрый Калдун** — 4 млн (дарэчы, столькі ж — у Барыса Майсеева);

**"Ляпіс Трубяцкой"** — 3 млн;

**Анжаліка Агурбаш** — 1 млн;

**Дзмітрый Шэпелеў** — 646 тысяч;

**Вадзім Галыгін** — 593 тысячы.

**ДАРЭЧЫ**

### СПРЭЧНЫ МОМАНТ

Каго яшчэ называюць у ліку 10 самых паспяховых беларусаў у расійскім шоу-бізнесе:

— заслужанага артыста Расіі Барыса Майсеева,

— пераможца "Фабрыкі зорак-6" Дзмітрыя Калдуна,

— жонку Уладзіміра Прэснякова-малодшага Наталлю Падольскую,

— ансамбль "Беларускія Песняры",

— пераможцу шоу "Народны артыст" Руслана Аляхно.

Перспектыўнымі для раскруткі расійскія крытыкі лічаць таксама клубны гурт "Сярэбранае вяселле" і альтэрнатыўшчыкаў "Drum Extasy".



*Золата расійскіх алігархаў маніць да сябе нашых зорак*

> "Аднак асабіста я апошнім часам прытрымліваюся практыкі "дзе нарадзіўся, там і спатрэбіўся".

### 1. УСЕ ЛЮБЯЦЬ "ЛЯПІСАЎ"

Гэта практычна даслоўная цытата супрацоўнікаў "Нашага радыё", у чартах якога трывала прапісаўся беларускі гурт.

Са статусам бяскрыўдных эстрадных блазнаў гурт **"Ляпіс Трубяцкой"** развітаўся пяць гадоў назад, з выхадам у свет альбома "Капітал". Стылістыка сацыяльнай сатыры а-ля Маякоўскі і імідж барацьбітоў як з рэжымам, так і з "памяркоўнасцю" мела эфект выбуху бомбы — гурт адзначылі і ўзнагародзілі літаральна ўсюды, ад "Рок-каранацыі" да RAMP (Расійская альтэрнатыўная музычная прэмія). Нядаўна гурт зноў вызначыўся — атрымаў галоўную расійскую рок-прэмію "Чартавы тузін", дзе перамог адразу ў трох намінацыях, уключаючы "Гурт года". Увесь сакавік і красавік у "Ляпісаў" ужо распісаны гастролямі па Расіі і Украіне.

**Ганарары** музыкаў, па розных звестках, складаюць ад 3 да 15 тысяч долараў, пры гэтым лідар гурта Сяргей Міхалок у інтэрв'ю падкрэслівае: "У мяне няма ўласнасці — ні машыны, ні кватэры. Гэта дзіка зручна! Асабліва ў Беларусі. Я адчуваю сябе свабодным чалавекам". Зрэшты, на радзіме "свабоднага чалавека" летась унеслі ў чорныя спісы забароненых выканаўцаў, канцэрты былі адменены, а сам Міхалок трапіў пад пільную ўвагу пракуратуры.

**Дыскаграфія**: сёлета выйдзе 13-ты, або 6-ты ў новым вобразе альбом (пачынаючы з 2007 года. — Рэд.).

### 2. СУСЛІК С*** ПАПУЛЯРНЫ

"Стрэліўшы" ў 2001 годзе чэмпіёнствам у Вышэйшай лізе КВЗ, "зорка" беларускай зборнай вясёлых і знаходлівых **Вадзім Галыгін** праз некалькі год перабраўся ў Маскву і хутка паказаўся публіцы ўжо ў новай якасці — гумарыста-рэзідэнта скандальнага Comedy Club. Маналогі "злоснага сусліка з Беларусі" Вадзіка з абавязковым нецэнзурным слоўцам выклікалі ў расійскай тусоўкі не меншую сарамлівую і нястрымную папулярнасць, чым парнаграфічны часопіс у мужчынскім манастыры. Замацоўваючы поспех, Галыгін адкрыў уласны бізнес, дабавіўшы да працы шоумена амплуа акцёра і прадзюсара. Зняўся, прадзюсіраваў, пісаў сцэнарыі і агучваў герояў у больш чым дзесяці фільмах.

З 2007 года ён яшчэ і зорка рэкламы

Як сцвярджаюць маскоўскія выданні, ганарар Вад-

# ПАКАРЫЛІ МАСКВУ

зіма толькі за адну з рэкламных серый склаў 300 тысяч долараў. Не дзіўна, што ў роднай Беларусі паслугі Галыгіна цяпер могуць "пацягнуць" хіба адзінкавыя кампаніі-гіганты з замежным капіталам.

## 3. МОЙ РОК-Н-РОЛ: "БІ-2"

Ці не самым звілістым атрымаўся шлях да славы ў гурта **"Бі-2"**. Але затое слава гэтая атрымалася трывалай і з гадамі, як каньяк, толькі набывае новы смак і адценні. У Маскву беларусы Лёва і Шура перабраліся праз Ізраіль, Аўстралію і… інтэрнэт, які ў 1999 годзе вымусіў віртуальных зорак радыёэфіру прыехаць у Расію і паказацца аўдыторыі "жыўцом". Потым быў культавы для цэлага пакалення "Брат-2" Аляксея Балабанава, дзе музыканты сыгралі саміх сябе і запісалі саўндтрэк, і вось ужо больш як 10 год яны застаюцца ў трэндзе, не сыходзяць з эфіраў і не знікаюць з афіш як у Расіі, так і на ўсёй постсавецкай прасторы.

Адзначацца ў сінявокай з канцэртамі гурт не забываецца і летась, нягледзячы на цэны ад 90 да 225 тысяч рублёў, даваў у Мінску чарговы аншлагавы канцэрт. Ганарары ж беларускага гурта на маскоўскіх карпаратывах, як сцвярджаюць дасведчаныя крыніцы, складаюць ад 5 да 15 тысяч долараў.

**Дыскаграфія**: больш як 20 выданняў. Цяпер "Бі-2" працягваюць "катаць" па Расіі леташні альбом "Спірыт", неўзабаве прывязуць яго і ў Эстонію, Латвію і Украіну.

## 4. НАШ АДКАЗ УРГАНТУ

Выпускнік беларускага падлеткавага тэлешоу "5х5" **Дзмітрый Шэпелеў** перайшоў з катэгорыі пачаткоўцаў у катэгорыю маладых "зорак" досыць хутка. Атрымаўшы ў 2004 годзе, у свае дваццаць з "хвосцікам", запрашэнне ад украінскага тэлеканала, Шэпелеў пераехаў працаваць у Кіеў, дзе палюбіўся гледачам як вядучы мясцовай "Фабрыкі зорак". Ужо ў 2009-м таленавітага хлопца пераманіў у Маскву не хто-небудзь, а сам Эрнст, і ў той жа год беларус стаў лаўрэатам прэміі "Тэфі". Вызначыўся як адзін з сувядучых "Еўрабачання-2009", праграмы "Достояние Республики", цяпер таксама адзін з самых запатрабаваных вядучых як канцэртаў у Крамлі і на іншых буйных пляцоўках, так і прыватных мерапрыемстваў. Падагравае цікавасць публікі і раман Шэпелева з Жаннай Фрыске (альбо чуткі пра яго). Аднак сёлета парачку "застукалі" ў Маямі папарацы.

Асобныя расійскія тэлевізійныя крытыкі сцвярджаюць, што свой першы мільён у доларах Шэпелеў ужо зарабіў.

## 5. ХАЙ І КАЎБАСНАЯ, ЗАТОЕ КАРАЛЕВА

"Міс Беларусь-1988", "Міс Фота СССР-1991", салістка "Верасоў" **Ліка Ялінская** — гэта ўсё ў Анжалікі Агурбаш у мінулым. А ў бягучым часе свецкія хранікёры называюць галоўным шчаслівым білецікам спявачкі яе мужа, расійскага бізнесмена, уладальніка каўбаснай імперыі Мікалая Агурбаша. Шмат у чым дзякуючы менавіта яму прыгожая жанчына, якіх у Расіі і так хапае, стала пераможцай конкурсу прыгажосці "Місіс Расія", прадстаўніцай Беларусі на "Еўрабачанні-2005" (пра выніку таго выступлення сціпла прамаўчым), дый, што грахі ўтойваць, заслужанай артысткай Беларусі і пастаяннай госцяй пафасных свецкіх мерапрыемстваў, тэлешоу і канцэртаў у Расіі.

Летась, паводле ацэнак прэсы, адбыўся вельмі паспяховы сольны канцэрт Анжалікі ў Крамлі (з квіткамі ад 1700 да 15 000 расійскіх рублёў, што параўнальна з "таксай" Дзімы Білана).

**Дыскаграфія:** 19 выданняў.

* * *

Зрэшты, многае ў гэтых ацэнках залежыць ад асобы каментатара. Заўсёднік нашага "Славянскага базару ў Віцебску" скандальны музычны гей-крытык **Сяргей Саседаў** хоць і добра ведае беларускіх артыстаў, але называе іх не інакш, як "эстрадай" і вялікай будучыні ў шоу-бізнесе не прагназуе: *"У нас ведаюць Паплаўскую, Ціхановіча, "Сяброў", "Песняроў", астатніх — нашмат горш. Моладзь таленавітая ёсць, асоб няма. Асабліва сярод спявачак — ва ўсіх сярэднестатыстычны макіяж, нешта лялькавае ў паводзінах, жывасці не хапае. Перспектыўных хлопцаў намнога больш: асабіста мне падабаюцца "J:Морс", "Litesound", ёсць іншыя фактурныя выканаўцы".*

*"Сапраўды, у тутэйшай тусоўцы шоу-бізнесу на слыху ад сілы 3–5 імёнаў нашых выканаўцаў,* — пагаджаецца маскоўскі прадзюсар і шоумен MC Shamah. — *Калі маніторыць свецкія мерапрыемствы, то частым заяўленым госцем бывае наш Дзіма Калдун, які ўдзельнічае практычна ва ўсіх зборных канцэртах. Пра Агурбаш чуваць менш, калі яна і наведвае музычныя мерапрыемствы, то толькі пафасныя і сур'ёзнага статусу. Пра Аляхно ўвогуле ніхто асабліва не памятае — пасля ўдзелу ў праекце Першага канала "Спецыяльнае заданне" нічога рэальна цікавага ў яго не было. Затое за каго ахоплівае пачуццё гонару, дык гэта за Дзіму Шэпелева — ён і тэлевядучы, і выдатны канферансье, і гумарыст, якіх яшчэ пашукаць трэба, карацей, вельмі запатрабаваны хлопец, ды яшчэ ва ўсіх на вуснах яго раман з Жаннай Фрыске…".*

*"Насамрэч, практычна кожны артыст, папулярны ў Беларусі, можа прабіцца і ў Расіі,* — мяркуе беларускі кампазітар і прадзюсар **Яўген Алейнік**. — *Усё ж на беларускай сцэне вельмі мала людзей, якія атрымалі незразумелыя рэгаліі незразумелым чынам, і то гэтыя артысты нецікавыя ні там, ні тут. Ва ўсіх астатніх магчымасці ёсць. Больш шансаў, зразумела, у моладзі, якая не звязана сямейнымі ці працоўнымі стасункамі, а самая спрыяльная сітуацыя ў тых з нашых артыстаў, хто трапіў у расійскія тэлепраекты, бо яны змогуць умацавацца менавіта ў шоу-бізнесе. Хоць зарабляць значна больш, чым у Беларусі, здолеюць нават рэстаранныя і клубныя артысты. Літаральна днямі мы запісалі новую песню з Русланам Аляхно. Дык вось, ён не вылазіць з гастроляў. Усё ж Расія вельмі і вельмі вялікая краіна, і ў ёй хапае litарадоўздабытчыкаў, якія "сядзяць" на прыродных рэсурсах, і людзі з лёгкімі грашыма там значна лягчэй з імі развітваюцца, чым наша публіка. Так што самабытны і прабіўны артыст, які мае ў Беларусі хаця б тысячу прыхільнікаў, можа праехаць 700 км і памножыць гэтую лічбу на расійскую нафту і на колькасць насельніцтва ў краіне. Аднак асабіста я апошнім часам прытрымліваюся практыкі "дзе нарадзіўся, там і спатрэбіўся".*

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**




*Ляпіс Трубецкой па-за канкурэнцыяй і ў РФ*

# ШЧЫ-БАРШЧЫ НЕ ДЛЯ ПАЛЯКОВАЙ

**Ён называецца “Вера — з надзеяй і любоўю” і павінен прайсці 23 сакавіка. Хутчэй за ўсё, на яго прыйдзе муж артысткі Веры Паляковай — Уладзімір Макей.**

Праўда, кампліментамі муж Веры Паляковай асабліва не раскідваецца.

“Яму, напэўна, было б прасцей, калі б я сядзела дома і гатавала шчы-баршчы, — прызналася Вера ў адным са сваіх апошніх інтэрв’ю. — Аднак мне здаецца, ён мяне пакахаў усё ж такі не за гэта. Зразумела, перажывае, што часам вечарамі мяне не бывае дома, але калі потым прыходзіць і бачыць вынік (а ён ніколі не прапускае мае прэм’еры, канцэрты), то заўважаю, што ганарыцца. Ён ніколі не скажа: “Ты была супер!” Калі скажа “нармальна”, то гэта будзе самая вялікая пахвала. Але я бачу, як зззяюць яго вочы ў гэты момант. Тое, што муж знаходзіць час прыйсці на мае прэм’еры, — гэта вышэйшая праява яго павагі да маёй творчасці. За што яму вялікі дзякуй!”

Нягледзячы на актыўнае творчае жыццё, Вера Палякова пастаянна падкрэслівае, што сям’я для яе заўсёды была і будзе на першым месцы. І самы лепшы адпачынак для яе — разам з мужам і дзецьмі.



*Служэнне Мельпамене патрабуе шмат чаго*

“Для мяне сям’я ўсё роўна на першым месцы. Гэта, вядома, не значыць, што можна “наступіць на горла маёй песні” — я ніколі гэтага не дазволю, бо мне таксама трэба рэалізавацца».

“Мая мама была трэнерам па стралковым спорце, а цяпер — прарэктар па навуковай рабоце, доктар педагагічных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта фізічнай культуры, — распавядала Палякова пра сваю сям’ю журналістам. — Тата скончыў радыётэхнічны інстытут, але па прафесіі не працаваў, займаўся бізнесам”.

З 2003 занята ў Тэатрыстудыі кінаакцёра кінастудыі «Беларусьфільм». Замуж за Уладзіміра Макея Палякова выйшла ў 2007 годзе.

Тэма кандыдацкай дысертацыі Паляковай — «Пластыка ў сучасным драматычным тэатры Рэспублікі Беларусь: ад 90-х гадоў і да нашых дзён».

Выкладае ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў сцэнічны рух, сцэнічны бой і фехтаванне.

Вера Палякова не толькі актрыса, тэлевядучая і выкладчык, але і спявачка. Восенню 2007 года адбылася прэзентацыя яе дэбютнага альбома «Актрыса».

Выхоўвае двух сыноў.

Узнагароджана спецыяльным прызам ТРА Саюзнай дзяржавы і медалём Саюзнай дзяржавы за ўмацаванне культурных сувязей паміж Расіяй і Рэспублікай Беларусь, Ганаровым знакам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь за ўклад у развіццё культуры Беларусі.

Дарэчы, на сайце кінастудыі “Беларусьфільм” у Веры двайное прозвішча — Палякова-Макей.

**ДАРЭЧЫ**

**Квіткі на канцэрт Веры Паляковай каштуюць не так ужо і дарага — ад 30 да 50 тысяч беларускіх рублёў. Праўда, у продажы іх ужо амаль што не засталося.**

**З АСАБІСТАЙ СПРАВЫ**

***Вера Палякова** нарадзілася 22 кастрычніка 1978 года. У 1999 годзе скончыла Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтва, іграла на сцэне Мінскага малога тэатра-студыі, Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага, Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы.*

## ВЫБАР МАШЫНЫ ПА… КОЛЕРЫ

“Ведаеце, як я выбірала сабе машыну? — дзялілася з журналістамі падрабязнасцямі сямейнага жыцця актрыса. — Мы з мужам зайшлі ў аўтацэнтр “Таёта”. Я ўбачыла аўтамабіль баклажаннага колеру і зразумела: гэта машына маёй мары. А калі заўважыла, што ў ёй вельмі ёмісты багажнік, у які ўвойдзе дзіцячая калыска, сумневаў не засталося. Муж сказаў: “Ну толькі жанчына можа па колеры машыну выбіраць!”

## ПРЭМ’ЕРА ЗА ПРЭМ’ЕРАЙ

Нядаўна ў Тэатры-студыі кінаакцёра адбылася гучная прэм’ера спектакля “Сродак Макропуласа” з Паляковай у галоўнай ролі. Цяпер актрыса занята на здымках серыяла “Матулі”.

Здымкі праходзяць у РНПЦ “Маці і дзіця”. Палякова іграе ўрача-гінеколага. Фільм здымаецца на “Беларусьфільме” па замове тэлеканала РТР з прыцягненнем расійскага капіталу.

**МАРЫНА МІТ**



**Заснавальнік** ТАА “Тут і цяпер” **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактор** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 22:45 15.03.12
Тыраж 299 экзэмпляраў